# ГРАНЬ

№1

ліпень жнівень

заснавана ў 2000 годзе
выданьне творчай віцебскай моладзі
выходзіць па некаторых сьвятах


# МЫ

Мы – гэта мы. І нас ўжо даволі шмат, так што не абыйдзешся звычайнымі тэлефоннымі званкамі: «Чуў, «Сёмая грань» зноў канцэрт ладзіць?» – «Не чуў, а што?» – «Да, ў мяне таксама толькі чуткі».

Цяпер нават у самай далёкай частцы Віцебску можна будзе пачуць пра нас, пра мяне, пра цябе і пра некаторых іншых. Неабходнасьць гэтага выданьня насьпела даўно, шмат хто хоча яго чытаць, многа народу хоча ў ім працаваць. То далучайся.

Матэр'ялы возьмем самыя розныя. І ў рознай форме. Па зьместу – вырашаць нам, зьнешні выгляд выданьня таксама лёгка зьмяніць, так што «Раз, два, тры» – мы пачалі!

P.S. З такім імпэтам пачаўшы, можа пераназавем газэту ў «МЫ»?

---

Чаго чакаць ад нас? А паглядзіце ў газэту: навінаў пакуль няшмат, але мы ж запрасілі да супрацоўніцтва – пішыце! Затое, мы адпрэзэнтавалі адразу два клюбы: В.С.К. «Мядзьведзь» і «АБА». У наступным нумары, напэўна, мы пачнем яшчэ адную рубрыку – кампутарную. І музычныя навіны падасьпеюць, я спадзяюся, да другога нумару. А ў астатнім чытайце анонс побач. Да, ледзь не забыліся: у другім нумары будзе план працы «Сёмае грані» на бліжэйшы час.

Правялі мы тэсты і вынікі аказаліся не самымі лепшымі. Пайшлі мы ў школу, пачыталі журналы – зноў тая ж карціна. У тралейбусе паездзілі, а там: «Аплаціце за праезд». Вось і высьветлілася, што ня ведаюць нашыя моладзь і старэйшыя рускае мовы, памыляюцца, блытаюцца, як паміж «языковой колбасой» і «языковой проблемой». Таму і няма сэнсу нам друкаваць рускую – усё роўна ніхто нічога не зразумее, бо ня ведаюць.

---

Вялікі дзякуй усім тым, хто ўжо пачаў працу па-над нумарам, хто даслаў свае матар'ялы, малюнкі, карыкатуры, прыватныя абвесткі, красворды, анекдоты, сьмешныя гісторыі, конкурсы і прызы да конкурсаў, хто стаўся спонсарам нашага выданьня, напрыклад, як Беларуская асацыяцыя журналістаў, што дапамагла з Інтэрнэтам, альбо «Усяслаў Чарадзей», які, падалося, нават з задавальненьнем друкуе нас.

Са свайго боку удакладняем, што наша газэта і часопіс «Сёмая грань» – гэта ёсьць розныя выданьні з розным калектывам аўтараў, таму просьба ня блытаць




*Дарагая рэдакцыя*

## У НУМАРЫ:

Караван у Германавічы

Зусім сакрэтна

Шалкевіч у Віцебску

Купальле ў Полацку

Хто такія паганцы?

Папарацы

Дзе напіўся Пуцін?

Пазавіце БАРЦа, старэнькага БАРЦа

Легенды вясны

Чаму Вы – тормаз?

# КАРАВАН

***7 жнiўня*** пачаўся новы накiрунак дзейнасьцi «Сёмай гранi».

Гэты накiрунак — вёска Германавiчы Шаркаўшчынскага раёну. Там жыве выдатная сям'я Райчонкаў, якая аддала ўжо шмат год адкрыцьцю новае беларускае спадчыны — спадчыны мастака Язэпа Драздовiча.

«Сёмая грань» разам з В.С.К. «Мядзьведзь» праводзiла вандроўку-караван ў гэтыя мясьцiны да выдатных людзей. Акрамя вiцебскiх сябраў прымалi таксама ўдзел i менскiя сябры;

• плянавалася сустрэча з мясцовай моладдзю. Яна адбылася, але трошкi раней за намечаны тэрмiн: не дайшоўшы нават да Германавiчаў, юнакi i дзяўчаты з «Сёмае гранi» сустрэлi некалькi агрэсiўных маладзёнаў. Празь некаторы час апошнiх стала болей, ды так, што не палахлiвым баявым хлопцам з В.С.К «Мядзьведзь» прыйшлося хавацца ў лесе ад узброеных чым папала «гопнiкаў». Дзе i заначавалi проста пад навальнiцай;

• па дарозе групоўку вiцебкай моладзi напаткаў карэспандэнт «Грамадзянскае газэты» Агурцоў, зьдзiвiўся здарэньню, пачаў фатаграфаваць i запiсваць на дыктафон;

• 9 жнiўня адбылося урачыстае вогнiшча. Не, не падумайце, што нашых спальвалi, як Джардана Бруна. Проста пры сьвятле вагню рамантычней бывае сустракацца з тымi, каго дагэтуль ня ведаеш. На сустрэчу прыйшлi прадстаўнiкi Таварыства Беларускае мовы iмя Францыска Скарыны з Германавiчаў i Шаркаўшчыны. Нашыя паказалi, што маглi: спачатку адзiн аднаго адвалтузiлi, пабiлiся на кiёх, прадэманстравалi прыёмы ўладаньня зброяй. Потым, паразмаўляўшы, пасьпявалi песьнi;

• перад гэтым хлопцы й дзяўчаты наведалi гонар вёскi — музэй Язэпа Драздовiча;

• нажаль, з-за нейкiх праблемаў ня выдалася наведаць вядомага беларускага мастака з суполкi «Пагоня» Алеся Марачкiна;

• увесь час памiж iмпрэзамi суправаджаўся «папраўчымi» работамi на карысьць ежы;

• часьцяком «сямiгранцы» выпрабоўвалi тое, што не кожны дзень можна адчуць у горадзе, напрыклад, каталiся на возе, на канi, альбо, ў суботу, — пайшлi ў лазьню...

• але й праводзiлi i тое, што звычайна робiцца ў вольны час, — напрыклад, дыскатэку;

• у пятнiцу вандроўнiкi наведалi ганчарню, дзе паглядзелi, як робяцца гаршчкi;

• а ў нядзелю ўсе пайшлi глядзець касьцёл, але на iмшу не пасьпелi, задаволiлiся размоваю з ксянзом, якi распавёў пра адместнасьцi каталiцтва, пра выявы на сьценах храма.

• а потым лавiлi рыбу i варылi зь яе юшку...

***Гран Сёмiч***

# ЗУСIМ САКРЭТНА

## сьпецыфiчныя навiны «Сёмай гранi»

Распарадак пранiкненьня ў офiс:

• паколькi у нас адабралi ключы, а адказвае за ўсё Вольга Карач, значыцца толькi яна можа адчынiць (тое значыць — дамовiцца) з гаспадарамi памяшканьня.

Аднак, час збору застаецца як i быў:

Аўторак — 20.00

Субота — 20.00

«Мядзьведзi» пакуль што зьбiраюцца на вулiцы дзеля трэнiровак па серадах.

---

Аксана Тарасава выказала жаданьне узяць кiраваньне шоў-клюбам «Граньдыёзус». Нагадаем, што гэты клюб быў створаны яшчэ ў 1998 годзе, праiснаваў пад рознымi кiраўнiкамi некалькi месяцаў, некалькi разоў адраджаўся, аднак ня болей чым на адну акцыю цi мерапрыемства.

Задачамi клюба, як павялося, зьяўляюцца арганiзацыя i правядзеньне шоў, дыскатэк, КВЗ i iншых масавых мерапрыемстваў як унутры, так i звонку арганiзацыi.

Мы спадзяемся, што цяпер, ўрэшце, «Грань-дыёзус» запрацуе ў поўную моц.

Магчыма, новы кiраўнiк зьменiць назву? Аднак, старая назва ўяўляецца нам даволi трапнай.

---

«Сёмая грань» шукае перакладчыка з польскай i ангельскай моваў.

Умовы пры сустрэчы.

---

«А&А» для выкананьня мэтаў i задач шукае некалькi рэле. Зьвяртацца да Алеся Баршчэўскага.

---

Народ, трэба зьбiрацца. Што, так i будзем — кожны сваё?

---

Беларускiя запiсы на любы густ — ад «Кальяна» i «Deviation» да «Камэлоту» i Даньчыка.

Заказаць у Менску вiдэа, плякаты i налепкi? Зьвяртайцеся!

Аба

Вывучаецца магчымасьць запрашэньня асобных гуртоў. Калi ты зацiкаўлены паслухаць нейкi гурт, або нейкага выканаўцу, пастаў крыжык, альбо проста перадай Вользе Карач сваё меркаваньне:

N.R.M
Цмокi
В. Шалкевiч
Зм. Бартосiк
А. Мельнiкаў
С. Сокалаў-Воюш
Камэлот
Exist
Deviation
Postscriptum
Крама
Новае неба
Улiс
нейкi iншы гурт, выканаўца, проста вядомы чалавек, паэт, пiсьменьнiк, мастак i г.д.

(пазначыць)

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

# Канец XX-га стагоддзя

Увечары 22-га ліпеня «Сёмая грань» правяла чарговае сваё паседжаньне пад агульнай тэмай «XXI-е стагоддзе: Паэт і грамадзтва».

Гэтым разам паседжаньне было аформлена ў выглядзе круглага стала. Гасьцямі паседжаньня былі Вінцэсь Мудроў з Полацку (перакладчык, празаік), Валеры Шчукін (таксама з Полацку, праходзіў пад маркай «Расказчык анекдотаў», дэпутат ВС 13-га скліканьня), Лявон Баршчэўскі (які таксама прыехаў з Полацку, перакладчык з дзесятку моваў, навуковец і інш.) і Віктар Шалкевіч (бард з Гародні, акцёр двух тэтраў).

Прысутнічалі у першую чаргу віцебскія маладыя паэты і пісьменьнікі, для якіх і ладзіўся круглы стол, проста моладзь з «Сёмае грані», якая прыйшла паслухаць Віктара Шалкевіча, журналісты і госьці з палітычнага алімпу горада, якія між іншым таксама, бывае, пішуць вершы.

Лявон Баршчэўскі закрануў у тэме разьвіцьця сусветнай і асабліва беларускай паэзіі праблемы зыходу кніг з агульнадаступнага ў элітарны тавар, замены яго тэлевізіяй, інтэрнэтам і іншымі фактамі масавай культуры, але тут завязалася бойкая дыскусія паміж ім і Валерыем Шчукіным, да якой паступова далучыліся ўсе астатнія. Ініцыятыву перахапіў Шалкевіч і прасьпяваў некалькі сваіх песень, пасьля чаго Вінцэсь Мудроў прачытаў сваё апавяданьне пра цешчу, якое знайшло нечакана бурны водгук у мужчынскай частцы аўдыторыі. Мясцовыя паэты, не баючыся аўтарытэтаў, імкнуліся перацягнуць коўдру на сябе, карацей, усё было вельмі цікава.

У фінале Шалкевіч працягнуў канцэрт і зьбег пад воплескі на цягнік, але «сямігранцы» не хацелі яго выпускаць, прапануючы ўзяць яго як закладніка, а водкуп браць ягонымі касэтамі.

У касе віцебскага вакзала, пасьля кароткіх просьбаў Шалкевічу і Шчукіну далі квіткі ў адзін вагон. Віктар сказаў: «Павяжуць, нас павяжуць», а касірка дадала, што калі б пазнала іх крыху раней — ня быць ім у адным вагоне...

Згубіўшы «лепшых таварышаў» паседжаньне перайшло ва ўрачыстую вячэру, расказ гісторый і анекдотаў.

Наступнае паседжаньне «Сёмае грані» адбылося 30-га ліпеня.

## Сьпецыяльны дадатак:

*• гумарэстычная праграма,*
*(некаторыя пункты не спраўдзіліся)*
*• закладка, што раздавалася на круглым стале і пасьля яго*

### Праграма

зусім не афіцыйнага візыту спадароў Віктара Шалкевіча, Лявона Баршчэўскага і Валерыя Шчукіна ў г.Віцебску
*22.07.2000г.*

· Урачыстая сустрэча легенды беларускае бардаўскае песьні.

· Урачысты дождж (град, навальніца) адказны Вітгідраметцэнтар

· Пагрузка, нагрузка

· Экскурсія па горадзе на вялікай хуткасьці (10 хвілін з вакна аўтамашыны)

**Кава, марозіва, печыва, ... і іншае па густу.**

· Продаж квіткоў «Сёмай грані», набыцьцё новых у іншых шматгранных арганізацыяў (білетныя касы)

· Урачысты прыём (напояў) у Амбасадзе сям'і Баршчэўскіх, Віцебск

**Кава, печыва, марозіва, гарэліва (калі ёсьць)**

· Традыцыйнае наведваньне гадзіннікавага заводу

· Абед (плаўна пераходзячы ў вячэру)

**Кава, печыва, 100 грам гарбаты паміністэрску.**

· Апошнія навіны ў выкананьні Віктара Шалкевіча.

· Спаць (15 хвілін)

**Кава, печыва (калі застанецца)**

· Адкрыцьцё мемарыяльнае дошкі

· Сустрэча (абдымкі) з грамадзянінам сям'і Лявонам Баршчэўскім на вышэйшым узроўні (5-ы паверх)

· Спазьненьне ня больш за 3 хвіліны

· Сустрэча з ганаровым сябрам Сям'і В.Шчукіным.

**Кава, какава, ласы-кілбасы.**

· Падпісаньне пагадненьняў на касэтках, кніжках, плякатах і інш.

· Урачыстае фатаграфаваньне, здымкі на відэа, зьняцьцё адбіткаў пальцаў (адказныя ва УУС палк. Гардзіенка і інш)

· Машына на круглы стол (тры разы).

· Круглы стол, квадратныя табурэткі і фатэль для стомленых.

· Рытуальнае чаканьне цягніку на 0.54

· Ад'езд раніцой на 5.52 на Менск.

***СпОнсары і пАртнеры***

IDEE я нахаджуся?
Мінздраў (папярэджвае)
Гідраметцэнтр (не адказвае)
МУСаРБ так сябэ (за неперашкоду)

*Такія закладкі засталіся пасьля сустрэчы ў рэдакцыі. Жадаючыя могуць зьвяртацца па іх...*



МЛ «Сёмая грань»
0212 ✆ 62-71-26
bajfvit@user.unibel.by



КРУГЛЫ СТОЛ

«XXI стагодзьдзе: Паэт і Грамадзтва»

Запрошаныя:

Віктар ШАЛКЕВІЧ
Лявон БАРШЧЭЎСКІ



22/07/000





*Гэты бок закладкі прысьвечаны другому кругламу сталу, пра які чытайце на старонцы 6.*
*Ад сябе дададзім, што неафіцыйна тэма гэтага стала гучала не «XXI стагоддзе: Паэт і Грамадзтва», а «XXI-е стагоддзе: Граждан і сабака»*



МЦ
**«Сёмая грань»**
0212 62-71-26 21-09-20
bajfvit@user.unibel.by



КРУГЛЫ СТОЛ

*«Грамадзтва і Паэт»*

**Запрошаныя:**

**Віктар Шніп**

**Людміла Рублеўская (Шніп)**



**30/07/00**







# КУПАЛЬЛЕ

## або Хто такія паганцы і дзе яны водзяцца




На гэтае сьвята ў гэтае месца мы марылі трапіць увесь год. Бо памяталі, як адбылося летась, у 1999-ым.

Даведаўшыся, што Супольнасьць «Усяслаў Чарадзей» ладзіць і сьвяткуе гэтае старажытнае традыцыйна беларускае сьвята па аўтэнтычных паганскіх (язычніцкіх) традыцыях на Наўліцкім возеры, мы вырашылі з'ездзіць туды сваёй групай, памер якой фактычна не абмяжоўваўся.

Я адчыніў карту, знайшоў возера. Аказалася яно непадалёк ад Ветрына, пасёлкам, што пад Полацкам. Усё лагічна, да Полацку — на дызелі, потым на аўтобусе, а там пешшу кіламетраў 10-12. Ня першы раз.

Купілі крыху піва (які ж беларус бяз гэтага бурштынавага напою?), вэнджаную скронь на рынку, а астатняе абяцалі арганізатары.

Потым жадаючыя паехаць вырашылі выпраўляцца дзьвума групамі — а я вырашыў пад'ехаць пазьней. Праз нейкі час я здымаю слухаўку свайго тэлефона і чую, што ніхто не паехаў, а ў Полацку мяне чакае адзін Вэт.

Пакуль мы ехалі, Вэт зьеў усё полацкае марозіва, выпіў усё полацкае піва і перазнаёміўся з усімі полацкімі дзяўчынамі. Так ён сам сказаў. І мы параселі ў аўтобус на Ветрына, дзе Вэт працягнуў сваю цяжкую працу рэклямы «Сёмае грані», а таксама і сябе сярод мясцовых дзяўчын. Так прыйшоў час вылазіць, і каб не мясцовая дзяўчына, мы самі доўга шукалі б выйсьця на Наўліцы.

Праз дзесяць кіламетраў мы стаміліся. Возера ўсё не бачна, пачынае вечарэць. «Можа прыпынімся, піва пап'ем», — прапануе хтосьці з нас. Астатнія згаджаюцца, некалькі крокаў і ... вось яно возера!

Мы зьвесялелі ўраз, але, дзе ж ён, лягер паганцаў-купальшчыкаў? Дзе яны, дзе вогнішча, праз што скакаць, урэшце?



З гары бачна амаль уся паверхня возера, амаль кожны бераг праглядаецца, але нічога няма. Разгубленыя, мы вырашаем ісьці абы ісьці. Праз гадзіну ўжо нічога не бачна, цёмна, страшна. Брэшуць сабакі і нейкая цётка, у чый агарод мы ўламіліся нечакана.

І тут мы заўважаем вогнішча! Яно побач, чуваць галасы, але каб дайсьці да яго, трэ абагнуць доўгую затоку. Ідзем, падштурхваемыя хуткімі зьменамі ў жыцьці. Трапляем у балота, праходзім яго («мядзьведзі» мы ці не?).

Падыходзім да лесу. За яго вузкай паласой — тое вогнішча, чуваць галасы, але нейкія ненармальныя. Пачынаем разумець — не беларусы, і мацюкі ёсьць праскокваюць. Па галасох — чалавек сем, зь іх шмат дзяўчын. Пойдзем падыйдзем? А як жа...

Мы робім колькі крокаў і выходзім да палатак-намётаў, вогнішча, побач зь які сядзяць чалавек дваццаць падлеткаў рознага ўзросту!

Шляху назад няма, агладаемся. Але маладзёны самі спужаліся (а чаго ж вы хацелі: каб мы ламіліся празь лес як сланы?-)Мы пытаемся, што, маўляў, «купальшчыкаў» не бачылі? Пауза амаль хвіліну, потым старэйшы (напэўна) адказвае: «Не».

НАША НІВА
Кур'ер



Высьвятляем , як выйсьці на дарогу, сыходзім. І там бачым, што «хітрыя» хлопцы паклалі на дол гальлё, каб шумела, калі хто пройдзе. Таму нас і не чакалі...

У полі, куды выходзім, садзімся, п'ем піва. Мяркуем, у якім кусьце будзем начаваць, як чуем гулкі розгалас на тым беразе возера, і бачым вялізарнае вогнішча памерам з дрэвы.

Нармальна, гэта нашыя.

* * *

...Калі мы а палове на першую гадзіну выйшлі зь цёмнага лесу да вогнішча, першае пытаньне, якое нам задалі, пакуль гаспадар сьвята Васіль Храмцоў, у белай кашулі з вышыванкай, частаваў нас крупнікам, было даволі цікавым: «А вы адкуль?».

Хто ж увогуле праўду скажа?

***2000 год***

Сяржук Балай, ваяр і рыцар з Наваполацку, адзін з арганізатараў Купальля на Наўліцах, сказаў, што наступным годам яны будуць ладзіць Купальле віртуальнае: тузін відэакамераў будуць здымаць і па спутнікаваму каналу трансляваць гэта ў белы сьвет празь Інтэрнэт.

А жадаючыя будуць глядзець на маніторах сваіх кампутараў, сваіх тэлевізараў, чуць па радыё і задавальняцца.

Я яго разумею: такой колькасьці высокіх госьцяў адначасова я ў лесе не бачыў. Усім карцела паўдзельнічаць у падзеях.

І было дзе: працоўная група рубала дубовае гальлё, пілавала таўшчэзныя чуркі, ставіла высачэзны слуп, на які вязала купальскае кола з гарэшніку і дубовага лісьця.

А госьці потым спрабавалі традыцыйны крупнік на, тэарэтычна, 24-х травах, луставалі барана, запечанага цалкам, і пілі піва, каб па вусох цякло...

Было прыгожа. І калі, лежачы пад дубам, я кідаў позірк праз абшар, то бачыў не вусьцішныя коміны гарадоў, машыны і п'яных бамжоў, а дзеўчын у прыгожых строях і вянках, вогнішча, возера і неба...

Падобна, як раз гэта і ёсьць мая краіна.

***Зьміцер САМОТНІК***

# ПАПАРАЦІ і ПАПАРАЦЫ

Матар'ял пад такой назвай прыйшоў у «Нашай ніве» і «Віцебскім кур'еры». Таму няма сур'ёзнага сэнсу перадрукоўваць яго ўвесь. Прыемна ўспомніць тое, што было...

***Традыцыі***

Да прыходу асноўных ўдзельнікаў працоўная група зрабіла купальскае кола на высокім слупку, абпляла яго дубовымі, кляновымі, бярозавымі галінкамі і лістотай, упляла каляровыя стужкі. Дзеўчыны яшчэ сыплялі дзьве лялькі-русалкі і нарабілі вянкоў. Хлопцы зрабілі плыт, які павінен будзе раніцай паплыве з вогнішчам і русалкамі па рацэ. І, галоўнае, працягнулі па перыметру абрыву дрот з белымі сьцяжкамі. Каб госьці не ўпалі — высока.

***Госьці***

Прыйшлі: байкеры з велізарным прыгожым матацыклам, анкалягічныя хворыя з сваім доктарам (на усялякі выпадак), настаўнікі школы, зь якой супрацоўнічае «Сёмая грань», яе сябры і іх сябры.

***Нячысьцікі***

Моладзь з клюбу «Сёмае грані» Вайскова-спартовага клюбу ***«Мядзьведзь»*** выконвала ролю традыцыйных у справе купальля нячысьцікаў. Гэта значыць, той самай цёмнае сілы, што раней нібыта пераварочвала калёсы, валіла платы, прыпірала дзьверы колам і рабіла іншую брудную працу.

У задачу апранутых у камуфляжы, размаляваных у цёмнае (натуральныя камандас) хлопцаў уваходзіла красьці Купалінку, вугольле з вогнішча, ну, і іншыя шкоды.

Крадзеж

Святло выключылі і нячысьцікі пачалі свой сок. Праз некалькі хвілін чаканьня нехта выліў ваду ў простае (не купальскае) вогнішча, каля якога сядзела Купалінка. Усе разам асьлеплі, дым заслаў мясцовасьць, а нячысьцікі з воем скралі Купалінку.

Бітва

Але нездарма простыя удзельнікі былі папярэджаныя, што калі скрадуць Купалінку — не чакай каханьня ўвесь год. Такое кожны палічыў бы непрыймальным — і беларусы кінуліся ў бой. Некалькі хвілін сцежка ў лесе, па якой нячысьцікі хацелі уцягнуць дзяўчыну, выглядала як дыван зь целаў. Нехта з «чыстых» прабіраўся па целах з крыкам «Калечыць буду!», нехта роў, нехта проста крычаў. Адбілі, а пасьля некалькі хвілін хадзілі і шукалі сярод дрэваў хто гадзіньнікі, хто ключы, хто грошы. Але гэта такі адрэналін, скажу я вам! Дарэчы, нячысьцікі між іншым некалькі чалавек абярнулі ў сваю веру — намазаўшы ім вугольлем твар.

Русалкі

Апошнім акордам стаўся запуск плыта з русалкамі і вогнішчам на ім. Яму пажадалі даплысьці мінімум да Даўгаўпілсу, а лепш далей, дзе-небудзь у Швецыю, да партнэраў арганізацыі. Пасьля некаторым актыўным удзельнікам сьвята былі ўручаныя дыплёмы зь лягатыпамі сьвята.

* * *

А чаму ***папарацы***? Бо ўсё было засьнята на відэа і на фота, і гэтыя фотаздымкі можна будзе пагладзець у Інтэрнэце. Так нам абяцалі з аднаго on-line часопіса.

***Сёма Гранін***

## Дзеючыя асобы:

| | |
|---|---|
| галоўны арганізатар | *Вольга Карач* |
| кіраўнік працоўнай групы | Віталь Фралоў |
| інструктары В.С.К. «Мядзьведзь» | Марына Чарнавусава |
| | Віктар «Легіён» Мядзьведзеў |
| аператар відэа | Алесь Баршчэўскі |
| кіраўнік нячысьцікаў(багіня Мара) | Тарасава Аксана |
| яе намесьніца | Барысенкава Алеся |
| прыгожыя дзяўчыны ў беларускіх строях | Вольга Лукіна |
| | Надзея Лукашэнка і інш. |

і шмат хто яшчэ

# АНЕКДОТs

«У ЗША павялічылася колькасьць беспрацоўных», — перадае з Нью-Ёрку наш былы карэспандэнт



На выставе дасягненьняў народнае гаспадаркі вядучы грамагласна аб'яўляе:

***— А зараз я прадстаўляю цэглу Обальскага цаглянага заводу! Гэта лепшая цэгла ў Беларусі, яна — небіткая!***

(да цэглы йдзе рабочы з кувалдай)

***— Ён зроблены са звышмоцнага матар'ялу!*** — заліваецца вядучы (рабочы замахваецца) ... ***і вы зараз ў гэта ўбачыце*** (рабочы б' — цэгла на кавалкі), ...***а вось так, таварышы, выглядае цэгла Обальскага завода унутры...***



Адзін сьвятар другому:

— Я сёньня вянчаў тры пары, і сем сэрцаў узрадаваліся!..

— Вы хочаце сказаць, шэсць сэрцаў?

— А вы думаеце, я на халяву гэта рабіў?



Аднойчы, пасьля колькіх год сумеснага жыцьця жонка пытаецца ў мужа:

— Скажы, з колькімі жанчынамі ты спаў?

— Я думаю, ня трэба размаўляць на гэтую тэму, бо гэта можа цябе разззлаваць, — адказвае муж.

— Я буду трымаць сабе ў руках!

Муж пачынае ўспамінаць, і задуменна лічыць услых:

— Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць, ты — сёмая, восем, дзевяць, дзесяць...



Вяртаецца Дарэнка з камандыроўкі, а там яго жонка ... з Лужковым!



— Папа, я хачу быць паталаганатамам!

— Толькі праз мой труп!



Маці кажа 15-ці гадовай дачцы:

— Ніколі не займайся сэксам з мужчынам, пакуль ня выйдзеш за яго!

— Добра, мама, больш не буду!

Памірае стары бацька і хоча падзяліць майно (наследзтва) паміж трыма сынамі.

— Ні фіга сабе расклад! — здзіўляецца чацьвёрты.

Гэта што! Пяты ўвогуле нічога ня ведаў...



Калі твае народзіны (Дзень нараджэньня)?

— 23 жніўня!

— А якога году?

— Кожнага!



«Windows» — гэта слова з дыялекту апачаў. У перакладзе адзначае: «Белы чалавек, які глядзіць праз шкляны экран на пясочны гадзіньнік»



Добра: твая жонка з табой не размаўляе.

Дрэнна: Яна хоча разводу.

Вельмі дрэнна: Яна — адвакат.



Добра: твая дачка пайшла працаваць адразу пасьля інстытута.

Дрэнна: У якасьці прастытуткі.

Вельміі дрэнна: Некаторыя з тваіх калегаў — яе кліенты.

Зусім дрэнна: Яна зарабляе больш за цябе.



Прыходзе Пуцін у дупель, што завецца, п'яны дадому. Жонка яму:

— Вова, дзе ж ты так нажраўся, та?

Ён: — Наіна!...

Жонка: — Якая я цябе Наіна, Наіна — гэта ў Ельцына...

Ён: — Наіна...

Яна: — Да я ўсё жыцьцё Людмілай была, ты што?

Ён: — На іна... ўгурацы!



— Размаўляееце па-беларуску?

— Толькі са слоўнікам. Зь людзьмі — саромеюся.



Добра: чытаючы вышэйнадрукаванае ты сьмяяўся.

Дрэнна: Ты ведаеш людзей з падобнымі сітуацыямі.

Вельміі дрэнна: Адзін зь іх — ты.

# Расказвае дзядзька БАРЦ

Такія навіны пра «Сёмую грань» і яе партнёраў можна прачытаць у інфармацыйнай электронаай газэце Беларускай асацыяцыі рэсурсовых цэнтраў

***З 26 па 28 ліпеня*** 2000 г. сябры ***В.С.К. «Мядзьведзь»*** (м. Віцебск) сьвяткавалі ў лесе 10-я ўгодкі незалежнасьці Беларусі і свой выступ на футбольным турніры ў Барысаве. Пасьля ўрачыстасьцяў «мядзьведзі» прыступілі да выкананьня абавязковай праграмы - ставілі намёты, адпрацоўвалі элемэнты рукапашнай бойкі, арыентаваліся і праводзілі маскіроўку ў лесе, а таксама крыху пагулялі ў футбол. Апошні від спорту зараз уключаны ў «алімпійскую» праграму выступу клюбу.

***Вандроўку па Шаркоўшчыне*** зарганізавалі сумесна Віцебскі цэнтар «Сёмая грань» (bajfvit@user.unibel.by) ды В.С.К. «Мядзьведзь». Мэта вандроўкі - вёска Германавічы, дзе жыве сям'я Райчонкаў - энтузыястаў, якія шмат год працуюць над папулярызацыяй і адкрыцьцём творчае спадчыны мастака Язэпа Драздовіча. Па ходу вандроўкі падарожнікі спадзяваліся завязаць кантакты зь мясцовай моладзьдзю, але кантакты атрымаліся ня вельмі прыемныя: надта ж яна агрэсміўная. А 9 жніўня адбылася падрыхтаваная шоў-праграма на агульным вогнішчы-сустрэчы.

***З дапамогай Фонду ІДЕЕ*** Віцебскі цэнтар «Сёмая грань» (bajfvit@user.unibel.by) правёў другі літаратурны круглы стол пад дэвізам «21-ае стагодзьдзе: Паэт і Грамадства». На яго былі запрошаныя паэты і публіцысты Віктар Шніп і яго жонка Людміла Рублеўская.

Рэжысэры мерапрыемства запланавалі пікнік на прыродзе. Аднак дождж распужаў удзельнікаў, і яшчэ амаль гадзіну іх прыйшлося зьбіраць па хатах, куды яны зьбеглі, хаваючыся ад прыроднага катаклізму. Затое працягвалася мерапрыемства таксама незапланавана доўга: зь 5 да 12-ці гадзін. Слухачы не хацелі разыходзіцца і пераканаліся, што новы зборнік Віктара Шніпа «Чырвоны ліхтар» трэба набыць, каб чытаць і перачытваць.

# ГІСТОРЫЯ і зараз

***Віцебскі Вайскова-Спартовы клюб «Мядзьведзь»*** быў створаны тры гады таму на уласна грамадзкіх пачатках у двары аднаго з дамоў па вуліцы Церашковай. На некаторы час некалькі маладых хлопцаў, зацікаўленыя падрыхтавацца ў армію, захапілі сваім запалам болей маладых са свайго двара, знайшлі інструктараў па рукапашнай бойцы, па выжываньні ў лесе і самастойна пачалі выязджаць па-за горад дзеля трэніровак.

Калі лідэры суполкі сышлі ў армію, яны пакінулі кіраваць клюбам старэйшага з застаўшыхся, і менавіта тады, калі скончыўся лідэрскі запал, скончылася жаданьне — «Мядзьведзь» прыйшоў да Моладзевага Цэнтру «Сёмая грань». Цэнтр падтрымаў клюб, але пачынальнікі клюбу, вярнуўшыся з арміі, не выказалі аніякага жаданьня працягваць грамадзкую працу. Кінуты кіраўнік звязаўся з сумніўнымі асобамі, пачаў выконваць незразумелыя пляны ,і В.С.К. «Мядзьведзь» на сваім сходзе выбраў сабе новага кіраўніка. Пасьля клюб знайшоў сабе інструктараў і жадаючых займацца, а увесь стары склад зышоў туды, адкуль прыйшоў -- у двары.

Зараз В.С.К. «Мядзьведзь» з'яўляецца самастойнай моладзевай ініцыятывай, арганізацыяй спартовага накірунку, у бліжэйшы час мае намер зарэгістравацца ў Міністэрстве юстыцыі.

«Мядзьведзь» прываблівае моладзь тым, што хлопцы з клюбу, бывае і купаюцца (бывае і прымусова) у красавіку, і трапляюць пад лёд у сакавіку, выконваюць ролі «нячысьцікаў» у моладзевых пастаноўках Купальскіх сьвятаў і іншае.

Апошняй навіной «мядзьведзяў» сталася, што яны езьдзілі гуляць у футбол у горад Барысаў. Нажаль, падрыхтоўка да турніру цягнулася толькі тыдзень зь нечым, таму колькі-небудзь значных вынікаў дасягнуць не давялося. Толькі па ачкох перамаглі родную па духу арганізацыю «Край», дакладней яе суполку зь Берасьця.










# ЛЕГЕНДЫ вясны

У красавіку «Мядзьведзь» хадзіў на вядомае і старое месца пад Лёцці. Каб прыдаць цікаўнасьці выхаду ў лес, тры з старэйшага саставу вырашылі абысьці возера па доўгаму маршруту з фарсіраваньнем выйшлай з-пад лёду рэчкі па навясным мосьце. Астатні састаў, больш маладыя, пайшлі прамым шляхам зь Лёццаў да месца сустрэчы.

Але калі тры «дыверсанты», апранутыя ў камуфляжнае адзеньне, выйшлі да пляну ймай пераправы, яны зьдзівіліся — мост плаваў на самым цэнтры ракі, а да яго тэба было плыць проста па халоднай красавіцкай вадзе. Што і было зроблена -- бо раз пачалі, трэба і даказваць майстэрства. Праз некалькі хвілін змяклыя да пачарненьня «мядзьведзі» прабеглі праз дзіцячы лагер, чым выклікалі здзіўленьне і схаваліся ў лесе. За доўгі час, пакуль трэба было ісьці, яны падсохлі, засьпявалі і пачалі радавацца, бо да месца прызначэньня засталося літаральна сотня метраў. А па ранейшай дамоўленасьці хлопцы павінны былі нябачна пракрацца ў лягер астатніх «мядзьведзяў» і зрабіць нейкую «дыверсію». Супрацьлеглы бок, безумоўна, павінен быў выкрыць «злачынцаў» як мага раней. І умоўна «забіць».

Троіца пачынае красьціся, сачыць за прагалінамі ў лесе, выходзіць на месца лягеру, а там ... нікога няма.

Пытаньні нядоўга мучылі хлопцаў: нечакана высокая вада ў рацэ Дзьвіне нагнала вады ў возера Шэвінскае, якое абыходзілі яны, і літаральна затапіла мост, праз які павінны былі праходзіць «малодшыя». Выглядала гэта даволі дзіўна: пасярод возера, метраў за семдзесят ад берага, з вады тырчаць мастовы поручні, а самога мосту і не бачна.

Лягічна вырашыўшы, што калі поручні бачныя, значыцца глыбіня там невялікая, хлопцы па пояс прайшлі, пасядзелі-адпачылі на саміх поручнях, пагрэліся на сонцы (напэўна, здалёк гэта выглядала падобна на эпізод з вядомага расейскага фільма «Асаблівасьці нацыянальнае рыбалкі») і пайшлі далей, прычым адзін зь іх, «шукаючы броду», зноў трапіў у ваду з галавой.

Астатняе ўжо не так цікава: групы знайшліся, пахваліліся і вырашылі запісаць знакамітую «вылазку» у ганаровы архіў «баявых дзеяньняў» клюбу.

***Ружовае Медзьведзянятка***




*Калісьці «сяміграншы» былі малымі і непаўналетнімі, не працавалі і толькі вучыліся*
*Аднак час ішоў, яны сталелі, пачыналі працаваць і зарабляць грошы, а потым абзаводзіцца ўласнымі аўтамашынамі. Так нарадзіўся своеасаблівы «прафсаюз» тых, хто хоча дапамагчы і сабе і іншым у цяжкай справе працы з машынай.*
*Бяссменным кіраўніком*

* * *

# Цытата тыдня

**Пытаньне:** У бацькі ВАЗ-1111 «АКА» — намучыліся з ёй далей няма куды. Калі траіць пачынае...

**Адказ:** Гэта як, — ціпа, трэці цыліндар адкульсьці пачынае выяўляцца :)

* * *

*гэтага аб'яднаньня зьяўляецца Віталь Фралоў, якога ўсе лепш ведаюць як ВЭТа.*
*У свой час, калі ў Лучосе праводзіліся «паседжаньні» клюбу, ён выкарыстоўваў свой уласны аўтамабіль, каб вывучаць цяжкую справу шанаваньня гэтага цуда XX стагоддзя — аўтамабіля.*

*Цікава, што цяпер яго «Ластаўка», не перажыўшая такіх эксперыментаў, зноў чакае на шае увагі. :)*

## Прыватная абвестка

*В.С.К. «Мядзьведзь» прыме ў падарунак УАЗ (бобік) у любым стане, або набудзе яго ж у стане «сеў і паехаў». Кантакт праз рэдакцыю.*

# АЎТАМАБІЛЬНЫЯ гісторыі

ад «Аўтаклюба беларускіх аматараў»

## *Што кажа і што думае гандляр, калі прадае Вам машыну на аўтарынку (жарт)*

| кажа | думае |
|---|---|
| Рамонт не спатрэбіцца! | ...няма сэнсу! |
| Папярэдні ўладальнік быў вельмі задаволены гэтай машынай! | ...ён і зараз усюды яе шукае! |
| Ёсьць люк | ...На выпадак, калі дзьверы заклініць |
| Драўляны руль! | ...Толькі скуркай прайсьціся разок, каб не занозіла |
| Толькі што з Нямеччыны! Быў толькі адзін гаспадар! | ... дэпартавалі з-за пратэсту «зялёных» |
| | ... хацеў збыць яе ўсе 15 год |
| Вашая жонка будзе шчасьлівая! | ... з суседам, бо вы ўвесь час правядзеце ў гаражы |
| Паглядзіце, яна літаральна сама едзе! | ... канешне, калі няма ручніка... |
| Колькі ёй год? Два... | ...гады ў розыску. |
| Вельмі змяшчальны бардачок | крыху скрасіць адсутнасьць багажніка |
| Моцны, адчувальны, непатрабавальны тормаз! | ...гэта Вы. |
| Вы адчуеце, што такое кайф! | ...але будзе ўжо запозна. |
| Вы так прызвычаецеся да гэтае машыны, што дадзіце ёй імя! | ...якое мы не прыводзім з-за цэнзуры. |
| З гэтым аўто вы будзеце шчасьлівыя! | ...Як і ўсе ідыёты |
| Так што бярыце | |
| | Рукі ў ногі і матайце адсюль! |

# Гісторыя тыдня

перакладзена з рускай, перапрацавана «ад першае асобы»

Еду я неяк па Маскве, хуткасьць набраў, бац, а перада мной светлафор жоўтым міргнуў, на чырвоны пераключыўся. Але, думаю, праскочу, не пасьпелі ж з другіх напрамкаў хуткасьць набраць.

Так і ёсьць, пралятаю, але ж якраз за перакрыжаваньнем стаіць «гібон» (прадстаўнік ГІБДД, па нашаму -- ДАІшнік) і маша палачкай. Заляцеў я...

Пад'язджаю, прыпыняюся, ён падыходзіць. Малады сяржант, першыя разы, напэўна, ловіць.

— Сержант «бур-мур-бур», вы праехалі на чырвонае сьвятло, вашыя дакументы!

— Слухай, браток, мы тут з мужыкамі гарэлку п'ем, мяне пасалі яшчэ за адной бутэлькай, а па сьпешке забыўся на правы...

Сержант афігевае: мала таго, што на чырвоны, дык яшчэ п'яны за стырном і дакумантаў няма. А сам ня ведае што рабіць, тады йдзе за старэйшым. Падыходзіць старэйшы вусаты мент, прадстаўляецца (зноў «бур-мур-пыр») і дадае:

— Што здарылася?

Працягваю яму дакуманты. Ён, адчуваючы, што ніякі я не п'яны, здзіўлена:

— А што Вы сказалі сержанту «бур-мур-бур», што Вы п'яны і без дакумантаў?

— Што? Дык ён Вам яшчэ скажа, што я на чырвонае сьвятло праехаў!

*Агульныя апладысьменты*
*Занавес*

Тэл. (0212) 62 71 26
bajfvit@user.unibel.by
8 палос фармата А4
Друк — ГАКАІ «Усяслаў Чарадзей»



ГРАНЬ
выданьне творчай віцебскай моладзі
галоўны рэдактар — Баршчэўскі Алег

Віцебск, Церашковай, 30-1-133
Падп. у друк — 7.30 16.08.'00
Наклад — 298 ас.
211440 Наваполацк, Купалы, 12-1